Мастакі
Людміла Кісялёва, Людміла Лобач,
Васіліна Шаронава

**Пазнякоў, М.,  Яцкоў, М.**
Чароўная, каханая… / Песні / Пазнякоў М., Яцкоў М. - Брылі: Справа, 2013. -  12 с.

У кнігу ўвайшло тры песні Міколы Яцкова на вершы Міхася Пазнякова. Мілагучныя радкі вядомага беларускага паэта насычаны народнымі фальклорнымі матывамі, харастவом родных краявідаў і трапяткім асэнсаваннем кахання. Усё гэта і паклалася ў падмуркі новых песен.

# Чароўная, каханая...

Словы Міхася Пазнякова

Музыка Міколы Яцкова

♩ = 69

Dm Am E7 A7

Як зо-рач-ка вы-со-ка-я, ты све-ціш мне зда-ля-а-а, ма-

4 Dm G C Dm E7 Am F G C

я зе-ле-на-во-ка-я, а - дзі-на-я ма-я. Ча - роў - на-я, ка - ха - на-я, мар-

8 F Dm E7 Am F

кот - на без ця - бе-е - е пра - хо - дзяць дні рас -

11 G Em F E7 Am

стай - ны - я у смут - ку і жур - бе.



**Як зорачка высокая**
**Ты свеціш мне здаля,**
**Мая зеленавокая,**
**Адзіная мая.**

***П р ы п е ў :*** ***Чароўная, каханая,***
***Маркотна без цябе***
***Праходзяць дні расстайныя***
***У смутку і журбе.***

**Ды кожны міг я марамі**
**Спяшаюся туды,**
**Дзе за дажджом, за хмарамі**
**Мы разам – назаўжды.**

***П р ы п е ў :*** ***Чароўная, каханая,***
***Маркотна без цябе***
***Праходзяць дні расстайныя***
***У смутку і журбе.***

6 *Міхась Пазнякоў*
*Мікола Яцкоў*

Словы Міхася ПАЗНЯКОВА

# Летні вечар

Музыка Міколы ЯЦКОВА

**Не хутка**

C Am
Ва-сіль-кі із-ноў пя-шчо-тай све-цяць ля ша-пот-кіх ма-ла-дых жы-тоў,

3 F 1. G
я ця-бе, а-дзі-ну-ю на све-це, са-му-ю свят-ліс-ту-ю знай-шо-оў

2. G C
я та-кі ак-ры-ле-ны ця-пе-ер. Са-лаў-і-най пес-ня-ю лі-ец-ца

2 Am Dm D
ве-чар ля за-дум-лі-вай ра-кі, і та-ка-я му-зы-ка на сэр-цы,

5 1. F G 2. F G C (G)
і сус-вет уз-ру-ша-ны та-кі. Са-лаў- і сус-вет уз-ру-ша-ны та-кі.



*Міхась Пазнякоў*
*Мікола Яцкоў*



**Васількі ізноў пяшчотай свецяць**
**Ля шапоткіх маладых жытоў,**
**Я цябе, адзіную на свеце,**
**Самую святлістую знайшоў.**
**Палявой сцяжынкай моўчкі крочу,**
**Думаю, узнёслы, пра цябе.**
**Я такі пяшчотлівы-дасхочу,**
**Я такі акрылены цяпер.**

***П р ы п е ў :*** ***Салаўінай песняю ліецца***
***Вечар ля задумлівай ракі,***
***І такая музыка на сэрцы,***
***І сусвет узрушаны такі.*** } *2 р.*

**Лягу ў незабудкавую квецень,**
**Нібы прыблукаў з дарог дамоў.**
**Самы час, як летні дзень, памерці,**
**І не нарадзіцца ранкам зноў.**
**Васількі ізноў пяшчотай свецяць**
**Ля шапоткіх маладых жытоў,**
**Я цябе, адзіную на свеце,**
**Самую святлістую знайшоў.**

***П р ы п е ў :*** ***Салаўінай песняю ліецца***
***Вечар ля задумлівай ракі,***
***І такая музыка на сэрцы,***
***І сусвет узрушаны такі.*** } *2 р.*

# Быхаўскае свята

Словы Міхася Пазнякова

Музыка Міколы Яцкова

**Tempo di valse**

Ах, бы - хаў - цы, ах, зем - ля - кі, гар - мо - нік шуст - ры

гра - е, звi-няць зi - хот - кi - я шам - кi, аж - но ду - ша кры-

ля - а - е. Спя - ва - е шчы - ра род - ны край, жыц - цё ўскi - да - е

кры - лы, свят - куй i сум свой ад - ра - кай, на - ро - дзе руп - ны,

мi - лы. Квiт - не - е ўсцяж ра - дзi - мы край, ба - га - ты, не - а-

доль - ны, гар - мо - нiк свет - лы, грай i грай, свят - куй, на-

ро - дзе воль - ны. У 𝄎 воль - ны.



**Ах, быхаўцы! Ах, землякі!**
**Гармонік шустры грае,**
**Звіняць зіхоткія шамкі,**
**Ажно душа крыляе.**

***П р ы п е ў :*** ***Спявае шчыра родны край,***
***Жыццё ўскідае крылы.***
***Святкуй і сум свой адракай,***
***Народзе рупны, мілы.***

***Квітнее ўсцяж радзімы край,***
***Багаты, неадольны.***
***Гармонік светлы, грай і грай,***
***Святкуй, народзе вольны!***

**У светлых клопатах тваіх**
**Багаццем спеюць гоні.**
**Пра радасць сонечную ўслых**
**Усё вакол гамоніць.**

***П р ы п е ў .***

**Глядзі і слухай, кожны госць,**
**І ты, блазнюк зацяты, –**
**Не ад прынукі весялосць –**
**Жыве ў народзе свята.**

***П р ы п е ў .***

## *Змест*







**Міхась Паўлавіч Пазнякоў** нарадзіўся 24 студзеня 1951 г. у в.Заброддзе Быхаўскага раёна Магілёўскай вобласці. Беларускі паэт, празаік, перакладчык, крытык, мовазнавец.

У 1977 г. скончыў філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага Універсітэта. Настаўнічаў у Бярэзінскім раёне і ў Мінску. Працаваў ў Інстытуце мовазнаўства Акадэміі навук Беларусі, дырэктарам Літаратурнага музея М.Багдановіча, галоўным рэдактарам выдавецтва «Юнацтва», узначальваў часопісы «Вожык» і «Неман», працаваў намеснікам дырэктара РВУ “Літаратура і Мастацтва”.

Упершыню выступіў у друку ў 1966 г. Выдаў шматлікія кнігі паэзіі. Асаблівую ўвагу надае вершам для дзяцей. Плённа працуе ў жанрах перакладу, крытыкі і публіцыстыкі.

Сакратар Праўлення Саюза пісьменнікаў Беларусі, старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ, член Прэзідыума праўлення Саюза пісьменнікаў Саюзнай дзяржавы. Лаўрэат Літаратурнай прэміі імя Янкі Маўра, рэспубліканскіх літаратурных прэмій “Лепшая кніга года”. Лаўрэат прэміі Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі і прэміі міністра абароны Рэспублікі Беларусь у галіне літаратуры. Узнагароджаны двума медалямі і граматамі.



**Мікалай Адамавіч Яцкоў** нарадзіўся 22 мая 1959 г. ў Магілёве. Скончыў Магілёўскае культасветвучылішча імя Н.К.Крупскай, а потым Мінскі інстытут культуры. Служыў у войску. З 1981 г. працуе дырэктарам Брылеўскага сельскага Дома культуры Магілёўскага раёна.

Выдаў зборнікі вершаў «Кракаўскія сшыткі», «Хрышчацік», «Міколавы прыпеўкі», «Кола года». Перакладчык. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў. Актыўна выступае як кампазітар-песеннік. Напісаў больш за тысячу песен на вершы беларускіх паэтаў. Аўтар песенных зборнікаў "Гронка бэзу" (на вершы Т.Ляшонка), "Знічка" (на вершы І.Карэнды), «На вайсковыя матывы» (на вершы Я.Купалы), «Птушка залатая» (на вершы А.Куляшова) і інш.

Аўтар музыкі афіцыйна зацверджанага “Гімна Магілёва”.



*Літаратурна-музычнае выданне*

Пазнякоў Міхась Паўлавіч
Яцкоў Мікалай Адамавіч

*Чароўная, каханая...*
Песні

Рэдактар - А.М.Яцкова
Нотаграфія - Sibelius 3
Гарнітура - Georgia, Times New Roman
Друк - HP Laser Jet P2035

Выдавец




*№ 87*
*31. 08. 2013 г.*
*213107 д.Брылі Магілеўскага раёна, Беларусь*
mikolabryl@gmail.com

